№ 64 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 64 (260). Год III. Вільня, 17 жніўня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## 16 жніўня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Стычкі пад Кэмелем і В'е Бэркэн. Даволі сільные наступленьні ворагаў на паўдня ад Ліс, пры Айет і на поўначы ад Анкр адбіты.

*Фронт генэрал-ан-шэфа ф. Бэн'а:* На заходзе ад Руа і на палудзенным заходзе ад Нуаён — вострая артылерыйская бітва. Пазьней узьняліся наабапал Анкр, на поўначы ад Ля Сіньʼе і на заходзе ад Уаз варожые штурмы. На паўдня ад Текур хутар Атэш астаўся ў руках ворагаў. У іншых мясцох мы ўсюды адбілі іх штурмы перад нашымі баевымі пазыцыямі, часьцю контратакамі. Цяжкіе страты мелі ворагі ў бітвах пры Ля Сіны: тут яны дарэмна штурмавалі да шасьцёх разоў і пасьля дзесяцігадзінных вострых бітв былі адкінуты ў свае пазыцыі.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Пры Вэль баевая чыннасьць, крапчэўшая ў вечары, была сільнай і ў начы.

Мы зьбілі ўчора 24 варожые самалёты. Паручык Удэ дайшоў свае 54 і 55 пабеды.

### Расейскае ваеннае апавешчэньне.

ПЕЦЯРБУРГ (В.Т.Б.). Газэты пішуць аб сустрэчы расейскай і англіцкай флётыліі ў 200 вярстах ад Архангельска. С 5 англіцкіх судзен расейцы здабылі адно.

МАСКВА (П.Т.А.). 7.VIII. **Усходні чэха-славацкі фронт.** Мы высадзіліся каля Вейштеморо (?) і дайшлі да Касынцэва, дзе ўзялі запасы хлеба.

**Заходні чэха-славацкі фронт:** Спроба белагвардзейцаў заўладаць местам Свіяжскам не ўдалася.

**Мурманскі округ:** У кірунку на Архангельск мы здабылі варожую пазыцыю. У ваколіцах Онегі ворагі спынілі сваё наступленьне. У ваколіцах Евкратʼевска і Грэкоўска-Ловіцкай—удачная для нас бітва с казакамі.

**Паўночна-каўкаскі фронт:** Мы занялі места Кубэвлю.

---

ЛОНДОН (Рэўтэр). Амэрыканскі генэральны консул у Маскве даручыў абарону амэрыканскіх падданых у Расеі швэдзкаму консульству. Ен зьнішчыў сваю шыфровую кнігу і прасіў пазваленьня на выезд заграніцу.

БЭРЛІН. На месца генэрала-аншэфа ф. Кірхбаха назначэн за глаўнакамандуючага нямецкіх войск на Украіне глаўнакамандуючый у Эстляндыі і Ліфляндыі генэрал ф. Катэн.

КІЕЎ (В.Т.Б.). Урад Донскай дзержавы наказывае, што казакі з заходу і паўночнага заходу йдуць на Царыцын і знаходзяцца ад яго на адлегласьці аднаго дня дарогі. Яны ачысьцілі левы бераг Дона і ўварваліся ў Варонежскую губэрню.

ВЕНА (В.Т.Б.). Папеж зьвярнуўся недаўна да аўстрыяцка-вэнгерскага і італьянскага ўраду с прэдлажэньнем аб узаемнай замене ваенна-палонных, прабыўшых у палоне больш году. Аўстрыяцка-вэнгерскі ўрад згодзіўся на гэта. Італьянскі пакуль-што адказу не даў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Эўропэйскі цэнтральны камітэт індускіх нацыоналістаў друкуе заяву проці прадложэнай англіцкаму парлямэнту рэформы ў Індыі. Гэна рэформа не становіць завядзеньня ў Індыі самаўпраўленьня і ня ўводзіць нацыанальнага прынцыпа.

ЦЮРЫХ. Амэрыканскі ўрад, як наказываюць лёндонскіе газэты, высказаўся проці праектаванай падарожы Керэнскага ў Амэрыку.

ПЕЦЯРБУРГ. „Правда“ друкуе адозву рады народных камісараў да ўсіх расейскіх грамадзян у Францыі і Англіі, прызываючы іх супраціўляцца проці ўключэньня іх да арміі. Францыя і Англія вядуць цяпер вайну с савецкай рэспублікай, значыць расейскіе грамадзяне, будучы ў іх арміях, фактычна бароліся-бы проці свае Бацькаўшчыны і павінны былі-бы быць прызнаны ворагамі рэспублікі.

ГААГА. Між работнікамі ў Кардіфе і Свэнсі, а такжэ між рудакопамі ў палудзенным Вальлісе—сільная рэвалюцыйная пропаганда проці вайны. Арэштовано некалькі асоб.

КІЕЎ. «Кіеўск. Мысль» наказывае, што да 27 ліпня ўключна з Украіны вывезено 6.120 вагонаў, у тым ліку 1.688 гружэных збожжэм, 3.724 з іншай едомінай, ды 703—с сырымі матэр'ялаті. Нямеччына-ж прывезла на Украіну 14.336 вагонаў, у тым ліку 13 800 с каменным вугальлем, два — с тлустасьцямі, ды 504—з рознымі таварамі.

КІЕЎ (В.Т.Б.) 15.VIII. Украінскі міністэр фінансаў, як пішэ «Русскій Голас», заявіў, што ўкраінскіе падаткі дадуць 400 мільёнаў руб. даходу, а гарэлачная і цукровая манаполія— каля паўтара мільярда.

Украінскае Тэлеграфнае Агенцтва апавешчае заяву ўкраінскага міністра-прэзыдэнта, што Севастопаль будзе аб'яўлен за торговы порт.

ГААГА **Урадова**. Перэгаворы з Нямеччынай аб свабодзе падарожы ў Скандынаўскіе староны дайшлі добрай удачы. Параходам будуць выдаваць свядоцтвы на вольны праезд.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Навакол Англіі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 18.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У водах навакол Англіі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 12.000 тонн.

---

С прычыны даражыні паперы і ўсё ўзрастаючай платы работнікам адміністрацыя „Гомана“ прымушэна па прыкладу другіх газэт павялічыць цану свае газэты.

Пачынаючы ад 1 кастрычніка 1918 году асобны нумэр „Гомана“ будзе каштаваць 10 фэн., за месяц у месьце — 70 фэн., ва ўсім краю і заграніцай — 90 фэн.

*Вільня, 17 жніўня 1918.*

Кожная дзержаўная ўласьць дзержыцца ў сваім гасударстве *на сіле*, толькі сіла гэтая—дваякая: побач с сілай фізычнай, сілай аружжа, каторая можэ караць непакорных і гвалтам прымушаць грамадзян да спаўненьня загадаў уласьці, ёсь яшчэ другая сіла — сіла моральная, каторая не гвалтам, ня грозьбай кары, а самай павагай уласьці дзержыць мільёны людзей у слухмянасьці.

Звычайна сіла фізычная гасударственай уласьці йдзе побач з моральнай сілай яе. Дрэнна, калі ўласьць не мае павагі ў народу: яркі прыклад гэтага даюць нам так званые «рэспублікі» палудзенай Амэрыкі, дзе іншае ўласьці, апрача аружнага кулака, нема, дзе самадзержаўные «прэзыдэнты» вырываюць уласьць адзін у аднаго толькі сілай аружжа і седзяць на захопленым прэзыдэнцкім крэсьле датуль, пакуль нехта дужэйшы ня скіне іх у свой чарод. Аб моральнай павазе розных авантурыстаў, дабіваючыхся там на болей ці меней доўгі час уласьці, ня можэ быць і гутаркі. Але і аднэй толькі моральнае павагі —помала!

Сучасная вайна прынесла нам зусім новы тып гасударственай уласьці: гэта—ўласьць, якая, не маючы ніякай фізычнай сілы, можэ апірацца *толькі* на моральнай павазе. Украіна, Беларусь, Польшча,—усе гэтые тры гасударственые арганізмы, вытварыўшыеся адзін за адным за апошніе два гады, маюць ужо сваю ўласьць, маюць свае ўрады, але не маюць пад сабой фізычнай сілы, каторая цэлком знаходзіцца ў руках окупантаў. І з гэтага пагляду палажэньне ўрадаў трох памянутых старон зусім аднастайнае.

Само сабой разумеецца, што гэткі стан ня можэ трываць заўсёды: мінецца вайна, скончыцца ваеннае палажэньне, усе арміі будуць распушчэны да хат, — і вось тады прыйдзе мамэнт, калі і ўрад беларускі будзе прымушэн стварыць для сябе фізычную сілу. Аднак, на першым пляне тут усё-ж такі астаецца яго моральная павага: бо тварэньне фізычнай, аружнай сілы залежыць ад адносін да ўрадовай уласьці шырокіх народных мас. Толькі ўрад, які будзе мець моральны послух у народзе, здалее стварыць сабе апору і на фізычнай сіле, бязспорна, канечна патрэбнай дзеля ўдзержаньня ладу ў гасударстве і абароны асобы і меньня кожнага грамадзяніна.

Вось, чаму для маладой беларускай гасударственай арганізацыі першы—варунак істнаваньня свае ўласьці — гэта здабыцьце і ўзмацаваньне моральнай павагі. Уласьць гэта мае за сабой тое, што наш народ праз сваіх выбарных людзей на ўсебеларускім зьезьдзі даў ёй шырокіе паўнамоччы. Цяпер-жэ, калі гэта ўласьць рэарганізуецца, калі на сцэну выступаюць новые людзі, яны павінны заваевацъ сабе послух і пашану народных мас рупнай творскай працай, стварэньнем асноў дзержаўнага быту Беларусі. Калі ёй гэта ўдасца, дык у адпаведны мамэнт арганізацыя фізычнай сілы адбудзецца ў нас шыбка і лёгка.

---

## З усходняе Беларусі.

У нашы рукі папала жменя газэт, выдаваных у розных мясцох усходняе Беларусі. Яны даюць багаты матэр'ял для кожнага, хто цікавіцца жыцьцём нашых братоў, аддзеленых ад нас лініей берасьцейскае ўмовы. Як вядома, па ўсей усходняй Беларусі ў мамэнт заняцьця яе немцамі краёвая гаспадарка была ў руках земств. Гэтые земствы былі выбраны пры большэвіках, каторые ўстанавілі, што ў выбарах маюць права прынімаць учасьце ўсе, хто ў мамэнт падачы галасоў знаходзіўся ў межах выбарнага округа. А як пад той час праз усю Беларусь праходзіў ваенны фронт і на нашай зямлі стаялі мільённые расейскіе арміі, — дык у выбарах земскіх самаўправаў прынялі ўчасьці вялізарные масы чужых нашаму краю і нашаму народу людзей, папаўшых на Беларусь толькі дзякуючы ваенным здарэньням. Гэтак земскіе самаўправы ў вялікай часьці сваей зусім не адбіваюць патрэб беларускага народу, а знаходзяцца ў руках маскалёў, якіе, ведама, і думаць ня хочуць аб незалежнасьці Беларусі, аб аддзяленьні яе ад Расеі. А на гэтым

грунці творыцца вельмі цікаўнае палажэньне.

Справа ў тым, што ў шырокіх народных масах старая «маскоўская арыентацыя» чэзьне ў ваччу, і трэба спадзевацца, што здарэньні, якіе насьпеваюць цяпер у Расеі, вылечаць нашых людзей да канца ад «маскоўскай хваробы». «Орыэнтацыя» зьменяецца такжэ і між абмаскоўленай беларускай інтэлігэнцыей — у кірунку нацыанальнага ўсьвядамленьня і незалежнасьці Беларускай дзержавы. Між беларускім грамадзянствам і насаджэнымі нам большэвікамі чужацкімі «дзеячамі» расьце разлад. І сьляпому становіцца ясна, што чужакі ня могуць быць нашымі абаронцамі ад апэтытаў маскоўшчыны каторая для іх—родная.

Усё гэта адбіваецца на справах штодзеннага жыцьця ўсходняе часьці нашай Бацькаўшчыны. На першым пляне, як вядома, стаяць цяпер справы, зьвязаные з забаспечэньнем куска буднага хлеба для ўсіх жыхараў краю. Восьжэ, пад той час, як беларускі ўрад працуе над арганізацыей правільнага, раўнамернага падвозу тавараў першай патрэбы ва ўсе канцы Беларусі, мы бачым у ворагаў нашай незалежнасьці спробы псаваць гэту важную патрэбную работу, чуем аб ні на чым не асснованых выступленьнях проці Беларускай Тарговай Палаты, каторая становіць мо' найважнейшы орган беларускай дзержаўнасьці. А побач з гэтым сустрэчаемся з вострымі выступленьнямі розных прыблуд проці беларускай прасьветы, сустрэчаемся с тэндэнцыей за ўселякую цану захаваць маскоўскую школу.

Гэтак барацьба з астаткамі чужацкага панаваньня на Беларусі становіць першую павіннасьць беларускага ўраду. Будаваць незалежную Беларускую дзержаву павінны самі адвечные жыхары нашае зямлі—і павінны яе будаваць так, каб у фундамэнтах не аказалося ніякае хібы: найменшая абмылка пры іх закладзінах суліць развал усяе будоўлі. **Г. Б.**

# У Вільні і ваколіцах.

## Справаздача Беларускага Камітэту.

На адбытым 11 жніўня агульным гадавым сходзе Беларускага Т-ва пом пац. ад вайны маршалак Камітэту здаў справу с працы яго за час ад 1 жніўня 1917 г. да 1-га жніўня 1918 г.

У пачатку атчотнага году Беларускі Камітэт утрымліваў: 5 беларускіх пачаткавых школ у Вільні, летні прытулак у Чорным Бары (пад Вільняй) на 70 дзяцей, такі-ж прытулак у Качанох (пад Яшунамі) на 40 дзяцей, Беларускую Народную страўню ў Вільні (сьв.-Юрскі пр. 22), Беларускі Аддзел на Выстаўцэ Дамоў Працы і варштаты пры ім (сталярска-рэзьбярскі і ручных работ). Апрыч таго пры Камітэце істнаваў спэцыяльны фундуш дзеля выдавецтва кніжэк для школ і дзеля надзвычайных падмог грашыма.

Прытулак у Качанох быў пакінен на вёсцы і на зіму, ды там знаходзіцца і цяпер. Прытулак у Чорным Бары быў зьліквідован, бо дом, дзе ён памешчаўся, непрыгодны для жыцьця ў зімку. Малая частка дзяцей была перавезена с Чорнага Бору ў Качаны, а рэшта вярнулася ў Вільню і далей вучылася ў тамтэйшых беларускіх школах, куды хадзілі да выезду на лета.

Беларускую народную страўню ўдалося гэтак паставіць, што, ня гледзячы на розные неспадзеваные страты, яна разьвіваецца, не даючы ні даходу, ні ўбытку. Праўда, у пачатку 1918 году ў страўні быў вытварыўся дэфіцыт с прычыны таго, што за першые 5 месяцаў жыцьця страўні па загаду Камітэту выдаваліся дармовые абэды быўшым пад апекай Камітэту бедным дзецям (да паловы сьнежня—13.106 абедаў),—але гэты дэфіцыт Камітэтам пакрыт, і на 1 жніўня сальдо страўні было гэткае:

| | | |
|---|---|---|
| грашыма . | — М. | 257.24 |
| прадуктамі | + „ | 277.50 |

ня лічучы інвэнтара Чысло сталаўнікоў страўні —больш за 500.

У восені 1917 году была адкрыта пры Камітэці такжэ страўня для сярэдняга стану (сьв. Юрскі 21), але гэта страўня пайшла блага і была зачынена без ніякага ўбытку для Камітэту.

Беларускі Аддзел на Выстаўцы дамоў працы меў за атчотны год абароту на М. 6.961,81. На 1 жніўня меньне Аддзелу складалося:

| | |
|---|---|
| у гатоўцы . . . . . . . М. | 49.41 |
| у гатовых таварах . . „ | 1.234.00 |
| у сырым матэр'яле . . . „ | 738.00 |
| інвэнтар . . . . . . . . . „ | 279.00 |
| Разам . . „ | 2.300.41 |

Аддзел, апрача аплаты працаўнікоў і за матэр'ялы, выплаціў:

| | |
|---|---|
| у Камітэцкую касу . . . М. | 700.— |
| на дабрачынные справы (матэр'яламі і грашыма) „ | 195.70 |
| Разам . . „ | 895.70 |

Абарот спэцыяльнага фундушу быў ад 15.IX. 1916 году да 1.VIII. 1918 г. гэткі:

| | |
|---|---|
| ахвяры грашыма . . . . М. | 6 185.00 |
| паступіло з выдавецтва: | |
| а) грашыма . . . . . „ | 3.981.19 |
| б) таварамі (кніжкамі) „ | 5.769.30 |
| Разам . „ | 15.935.59 |

Выдаткі с спэцыяльнага фундушу за час ад 15.IX. 1916 да 1.VIII 1918:

| | |
|---|---|
| на дабрачынные справы: | |
| a) грашмі . . . . . М. | 1.251.00 |
| b) пераведзено ў агульна-камітэцк. касу . „ | 739.90 |
| c) кніжк. бедн. школьнікам . . . . . . „ | 859.10 |
| Разам . „ | 2.850.00 |
| на выдавецтвы . . „ | 5.405.76 |
| а ўсяго выдаткаў . „ | 8.255.76 |

Меньне спэцыяльнага фундушу на 1.VIII. 1918 станавіло:

| | |
|---|---|
| гатоўкай у Касе . . . . М. | 2.769.53 |
| кніжкамі на . . . . . . . „ | 4.910.30 |
| разам з выдаткамі . „ | 15.935,59 |

Агульна-камітэцкая каса зрабіла за атчотны год гэткі абарот:

Даходы:

| | |
|---|---|
| Сальдо на 1.VIII. 1917 . М. | 451.92 |
| членскіе складкі і розные ахвяры . . . . „ | 331.24 |
| с спэцыяльнага фундушу „ | 739.90 |
| ад Беларускага Клюбу . „ | 350.00 |
| ад Цэнтральнага Саюза Беларускіх Нацыанальных Грамадзкіх Арганізацый . . . . „ | 641.86 |
| з Беларускага Аддзелу на Выстаўцэ . . . . „ | 700.00 |
| падмогі на прытулак у Качанох . . . . . . „ | 1.206.00 |
| падмогі з мястовай касы „ | 4.975.00 |
| „ на школы . . . „ | 2.300.00 |
| прыватная пазыка . . . „ | 300.00 |
| **Разам** . „ | 11.995.92 |

Выдаткі:

| | |
|---|---|
| на ўтрыманьне безплатных беларускіх пачаткавых школ у Вільні . . . . . . . . М. | 2.653.86 |
| на ўтрыманьне беларускіх прытулкаў . . . „ | 2.837.48 |
| безплатные абеды . . . „ | 4.684.64 |
| помач адзежай . . . . „ | 878.25 |
| помач грашмі . . . . . „ | 680.20 |
| розные выдаткі . . . . „ | 234.74 |
| Разам . „ | 11.969.17 |
| Сальдо на 1.VIII. 1918. „ | 26.75 |
| Усяго . „ | 11.995.92 |

Даходы Камітэту паменшыліся проці леташніх с тае прычыны, што Польскі Камітэт, на рукі каторага прыходзілі с Швайцарыі (з Vevey) вялізарные суммы на помач «польскаму, літоўскаму і беларускаму насяленьню—ў роўнай меры», адмовіўся выдаваць Беларускаму Камітэту якую-колечы помач. У леташнім атчотным годзе беларусы атрымалі ўсяго 1% с прысланых с Швайцарыі грошы.

Абедаў Камітэт выдаў без ніякае платы 32.883. Апрыч таго раздаваў бедным дзецям прадукты на сьвяты, у тым ліку рыж і дровы. За грошы па сваей цане распрадаў рыжу 227 бедным сем'ям (для хворых і дзяцей), ды 18 пудоў 15 фунтаў рыжу распрадаў цераз пасрэдніцтва т-ва «Золак».

Апрыч таго Камітэт у меру магчымасьці аказваў помач палонным беларусам і высяленцам с фронту ў ваколіцах Даўг. Камітэт рабіў крокі дзеля хутчэйшага павароту як беларускіх палонных (праз Беларускую Раду), так і ўцекачоў з Расеі (праз Гродненскі Губэрскі Цэнтральны Камітэт у Пецярбурзе).

Урэшці Камітэт аказваў беларусам помач працай, памагаючы, між іншым, каля 20 маладым людзём заняць месцы вучыцялёў беларускіх школ.

Выдавецтва Камітэту выпусьціло ў сьвет гэткіе кніжкі для беларускіх пачаткавых школ:

1. Pieršaja čytanka.
2. Першая Чытанка.
3. Rodnyje Ziernioty.
4. Zadačnik I hod (dwa wydańni).
5. Задачнік I год.
6. Zadačnik II i III h.
7. Karotki Katachizm.
8. Karotkaja Historyja Świataja.
9. Jak prawilna pisać pa biełarusku.
10. Biełaruski prawapis.
11. Ab trusoch.
12. Kalendar na 1917 h.
13. Календар на 1917 г.
14. Kalendar na 1918 h.

Выслухаўшы справаздачу маршалка Камітэту і пратаколы Рэвізыйнай Камісіі, агульны сход выказаў пагляд, што і надалей Камітэт павінен ісьці па старой дарозе, зьвертаючы асабліваю ўвагу на паварот уцекачоў.

*Францішк Олехновіч.*

# На Антокалі.

П'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 63).

ПЯРОВІЧ
(хавае нотэс у кішэнь).

Добра!.. Дзякую. Заўтра памятайце купіць газэту. Прачытаеце там аб вашым нешчасьці. Бывайце здаровы! (выходзіць).

ЖЭБРАК (кульгае за Пяровічам).

Зрабеце ласку паночку!.. Жонку паляруш ткнуў... (з злосьцю): каб цябе намачыло!..

ЖЭБРАЧКА.

Пісаў, пісаў—і нічога не даў!

(Уходзіць КЭЛЬНЭР, дае ЖЭБРАКУ бутэлячку гарэлкі).

**З'ява 12.**

ЖЭБРАКІ
(седаюць на фронце спэны, развязываюць свае торбы, п'юць і закусываюць).

ЖЭБРАК (выпіўшы).

У такую гарачыню гарэлкі выпіць добра—асьвежае! (Дае бутэлячку жонцы): Маеш! Асьвяжыся!

ЖЭБРАЧКА
(п'е, моршчыцца, закусывае).

ЖЭБРАК.

Абаранкі, каторые мы сабралі, трэба нанізаць на шнурок і прадаць у краму. А грошы ўсе давай мне! А то як схаваеш хоць капейку, а я знайду ў тваім рызьзі, дык дабра табе ня будзе!

ЖЭБРАЧКА.

Ах ты паганец! Дык ты сваей жонцы шкадуеш капейкі! Мы-ж разам працуем!

ЖЭБРАК.

Якая там твая праца! Вось штука сядзець і маўчаць. Вось я, дык працую, бо языком пытлюю за дваіх.

ЖЭБРАЧКА.

А маўчаць, думаеш, не праца? Спрабаваў-бы памаўчаць, як я, тады пабачыў-бы як гэта салодка!

ЖЭБРАК.

Ціха, цсс! не крычы! забылася, што немая і не павінна казаць ні слова. Яшчэ хто пачуе! (п'е гарэлку) Ах, цяпер мог-бы пайсьці нават у скокі.

(пяе):

Чэлавек гарэлку п'ець,
Весялей каб мог ён пець.
Пасьля ўзяўшыся у бокі
Можэ пайсьці хоць у скокі,
Як на балю якійсь пан!

Як гарэлкі вып'еш зноў,
Заіграе ў жылах кроў!..
Сваю Магду я кахаю,
І здаецца бытцым у раю
Чэлавек сабе сядзіць!

Калі Бог дзіцё ням дасьць,
Каб наш род ня мог прапасьць,
Калі гэта сынок будзе,
Выведзем яго мы ў людзі,—
Ен вялікі будзе пан.

Бо хаця мы жэбракі,
Маем грош сякі—такі.
Не глядзеце на лахманы,
І што андарак парваны,—
Але грошы ў хаце ёсьць.

ЖЭБРАЧКА.

Маўчы, ціха!.. не кажы,
Што шмат грошы маем мы,
Бо калі пачуюць людзі,
Што тады з гэтага будзе?—
Болей нам ніхто не дасьць...

ЖЭБРАК.

Ты дурная! што крычыш,
Сядзі ціха бытцым мыш,
Бо калі пачуюць людзі,
Казаць будуць, як аб цудзе,
Што немая, а пяе.

ЖЭБРАЧКА.

Годзе, годзе ўжо сядзець,
Я-ж так сама хачу пець!
Ці-ж ня ведаеш, што мука,
Калі маўчаць ёсьць прынука,
А тут хочэцца пеяць.

ЖЭБРАК.

Бабскі род заўсёды так:
Памаўчаць дык ім не ў смак,
Языком-бы ўсё крупіла,
Як тупая акайсь піла,—
Хоць ты вушы затыкай.

ЖЭБРАЧКА.

Годзе будзе ўжо брэхаць—
Пойдзем лепей паскакаць!
Трэба-ж разпрастаці косьці,
Бо мяне ўжо бяруць млосьці
Ад сядзэньня бяз руху.

ЖЭБРАК.

Ну, дык бярэмся пад бок,
Пойдзем, Магда, ўнэт у скок.
Трэба, дсюль ісьці прочкі.
Бо баюся, што паночкі
Тут сьмеяцца пачнуць з нас.
(Выходзяць у скоках).

(Далей будзе).

Прынімаючы пад увагу, што выдавецтвам кніжэк для школ Камітэт быў прымушэн заняцца дзеля таго, каб забяспечыць кніжкамі вучняў сваіх школ і што ў праграму працы К-ту выдавецкая работа ня ўходзіць, а так-жэ ўважаючы, што ахвяры на дабрачынные справы паступіўшые ў спэцыяльны фундуш, цэлком ужыты на загаданые патрэбы, а рэшта грошы фундушу празначэна на выдавецтва, — агульны сход пастанавіў выдзяліць увесь выдавецкі фундуш (грошы і кніжкі) с Таварыства, стварыўшы новае Таварыства, або ўвайшоўшы ў умову з якім-колечы ўжо істнуючым. Правядзеньне гэтага ў жыцьцё загадано Камітэту.

У канцы былі давыбраны новые члены К-ту: п.п. Янка Станкевіч, Мацей Келмуць і Павал Кіршэўскі. Гэтак Камітэт складаецца цяпер з 10 асоб: маршалак—А. Луцкевіч, сэкрэтар—Я. Салавей, скарбнік — Я. Мэнке, А. Рачкоўская, І. Луцкевіч, І. Станкевіч, Я. Ліцкевіч, П. Кіршэўскі, Ф. Вішнеўскі, М. Келмуць. Рэвізыйная Камісія—с 4 асоб: Д. Семашка, Л. Лойко, П. Вонсовіч, К. Юрэвіч.

× **Адкрыцьце школ.** Штадгаўптман апавешчае, што навука ва ўсіх віленскіх школах пачнецца 1 верасьня. Каб адкрыць школу раней, трэба атрымаць асобнае пазваленьне ад школьнай уласьці.

× **Сыоністы ў нашым краю.** У газэце „Dz. P.“ з 9.VIII. 18 чытаем, што паводлуг жыдоўскіх газэт, сыоністычная арганізацыя ў Вільні працуе над уладжэньнем сыоністычнага цэнтральнага камітэту на ўсю Літву. З гэтай мэтай арганізацыя зьвярнулася да ўсіх сыоністычных груп у Літве с просьбай прыслаць ведамасьці аб кожным сыоністычным саюзе.

× **Госьць з Гамбурга.** Правіцельствуючый бургомістр вольнага места Гамбурга, ф. Мэле, прыехаў у Вільню у аўторак, 13 жніўня. Яго віталі нямецкіе ваенные і цывільные ўласьці.

× **Аб падарожах.** С прычыны чысьленых недаразуменьняў напамінаецца, што падарожа ў межах Об. Ост. пазваляецца без ніякіх асаблівых пазваленьняў кожнаму, у каго ёсьць пашпарт Об. Ост. Ехаць у Вільню або з Вільні можна і надалей толькі маючы спэцыальнае пазваленьне. Падарожные, едучые ў правінцыю і выežджаючые або прыежджаючые ў начы, а такжэ спыняючые падарожу ў начы, павінны мець асобнае пазваленьне ад свайго найбліжэйшага начальніка.

× **Данные аб дамох.** У тыдні ад 18 да 24 жніўня гаспадары і ўпраўляючые дамамі пры вуліцах, нямецкіе назовы каторых пачынаюцца літэрамі P, Q, R і S, павінны явіцца да штадтгаўптмана, каб даць статыстычные ведамасьці. Пры гэтым з вуліц:

на P—ў панядзелак і аўторак, на Q і R—у сераду, на S—у чацьвер, пятніцу і суботу.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 12—13 | + 21,0° | + 11,2° |
| 13—14 | + 18,5° | + 8,5° |
| 14—15 | + 19,3° | + 13,7° |
| 15—16 | + 21,0° | + 11,5° |

# З усяго Краю.

### З менскага жыцьця.

*(Ад нашага карэспандэнта).*

У Менску пад дырэкцыей п. Ф. Олехновіча зарганізаваўся новы беларускі тэатр пад назовам „Беларускі Народны Тэатр“, каторы 4 жніўня пачаў свае спэктаклі ў «Беларускай Хатцэ».

Памяшчэньню, у каторым устроілася новая трупа, можна зрабіць шмат закідаў: і далёка ад цэнтру места, і нема дэкарацый ды іншых патрэбных для спэктакляў рэчаў,—аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, спэктаклі «Беларускага Народнага Тэатру» маюць у публікі вялікі усьпех. Прычына гэтага — любоў да свайго дзела і энэргія кіраўніка тэатру, здалеўшага ў вельмі кароткім часе зарганізаваць маладые і здольные драматычные сілы і не шкадуючага працы, каб ладжэные прэдстаўленьні паставіць на вышыні праўдзівага мастацтва.

Спэктаклі пачаліся п'есай «На вёсцы» п. Ф. Олехновіча. Калі расчынілася сцэна, публіка была прыемна зьдзіўлена, пабачыўшы жывую дэкарацыю—с праўдзівых дзярэў, кустоў і травы. Поўная настраеньня п'еска прайшла вельмі ўдачна. Запраўды пекна пастаўленые сцэны і абразы пакінулі ў душы прыемнае ўражэньне, ды гэтаму шмат памагло хараство жаноцкай паловы артыстаў. Пасьля п'есы «На вёсцы» аўтар яе, горача вітаны публікай, дэклямаваў вершы беларускіх паэтаў. Дэклятара закідалі кветкамі. Канцэртны аддзел вечара закончыло выступленьне беларускага хору, каторы вельмі складна прапеяў некалькі народных і іншых песень. Асабліва-ж падабаліся публіцэ два нумэры праграмы: хор з малымі солістамі—Шурачкай і Язэпкай. Саля была даслоўна перапоўнена публікай.

Чародные спэктаклі былі назначэны на суботу, 10-га, і нядзелю, 11-га жніўня. У праграме — ў суботу «Калісь» і «Чорт і баба» (новая камэдыя Ф. Олехновіча, напісаная ў Менску), а ў нядзелю—«Бутрым Няміра». Пачаліся рэпэтыцыі „Манькі“, камэдыі Ф. Олехновіча.

Як мы чулі, «Беларускі Народны Тэатр» маніцца пачаць выезды ў правінцыю. **М. М. М.**

### Краёвые маркі.

По загаду Глаўнакамандуючага на Ўсходзі, замест цяперашніх краёвых рублёў заводзяцца краёвые маркі паводлуг курсу 1 руб. = 2 маркі. Цяперашніе рублі Об. Ост. маюць сваю сілу на неазначэны час і будуць у абароце аднача сна з маркамі Об. Ост.

### Водные дарогі.

У памянутым намі праекце магістрату места Гумбінэна аб воднай дарозе гаворыцца:

Дагэтуль можна было гаварыць толькі аб воднай дарозе Каралевец—Тыльжа—Коўна, значыць, па цячэньню ракі Нёмна. Нёман быў вельмі запушчэны расейцамі, а яго фарватэр занесены пяском. Цяпер пачалася рэгуляцыя Фарватэра і ў быўшых расейскіх межах, у Ковенскім порце і між Коўнам і Вількамі. Новы праект, пададзены Гумбінэнам і мае на мэці праводку каналу між Нёмнам і Мазурскім каналам. Гэты канал прайшоў-бы пераз граніцу між Шыткемэн і Філіповам, і места Сувалкі асталося бы направа ад яго. Водная дарога, каторую злучаў-бы памянуты канал, гэтак прайшла-бы так: Прэгэль да Інстэрбурга— каналізованые Ангэрап і Піса—вышэй места Гумбінэна даліна Ромінты і ракі Бліндэ—вадаразьдзел—даліна Распуды—Аўгустоўскі канал. Даўжыня воднай дарогі ад Аўгустова да Гумбінэна—каля 100 кіл. Вазёры і балоты ў ваколіцах вадаразьдзелу маглі-бы даваць ваду палудзеннай часьці каналу да Аўгустова.

Ужо перад вайной было відаць, што станцыі чыгункі ля граніцы перагружэны. Пасьля павароту нормальнага жыцьця гэта выявіцца яшчэ больш рэзка. Праектаваны канал ня толькі зьменшыў-бы гэту бяду, але і шмат ажывіў-бы шырокі ўрадлівы пояс зямлі, каторы цяпер с прычыны благіх географічных варункаў знаходзіцца ў застою.

ГОРАДНЯ. У гэтых днёх пачнуцца работы дзеля правядзеньня чыгункі Горадня—Мураванка цераз Капліцы, Путрышкі і Верцелішкі.

ГОРАДНЯ. 15 жніўня, ў 10 гадз. 15 м. выехаў транспорт эмігрантаў у Вялікарасею.

БЕЛАСТОК. Найнавейшая спэцыяльнасьць зладзеяў—кражы гум і скуры у рамізьнікаў.

БАГУЛЯНКА. На полі пры дарозе ў Скідэль зладзеі зжалі 72 пуды каласоў. Часьць крадзенага знайшлі ў аднаго селяніна с Капліц.

ЛАСОСНА. 11 жніўня ў поўначы тут узьняўся з невядомай прычыны пажар. Пажарніцкая дружына не дала агню пашырыцца. Згарэла абора і стрэха хаты.

СУВАЛКІ. У якой меры за чатыры гады вайны зьдзічэла моладзёж, аб гэтым гавораць крадзежы, ўчыненые хлопцамі і дзяцьмі. Нядаўна міравы суд засудзіў 14-гадовага хлопца за кражу рэменю толькі на 8 дзён у вастрог с прычыны яго моладасьці. З гэтай-жэ прычыны быў апраўданы памочнік яго, 11 гадоў, толькі сям'ю яго абязалі добра нагледаць над ім.

СУВАЛКІ. На апошнім заседаньні акружнага суда адна с сьведак неўспадзеўкі шчасьліва радзіла дзіця. С прычыны гэтай «візыты бусла» судзьдзі прыпынілі заседаньне.

ВІЛЬКАВІШКІ. Тут задзержаны не маючый ніякае прафэсыі Бардайтіс, за якім лічыцца многа крадзежаў скаціны, асабліва коней.

КОЎНА Правіцельствуючый бургомістр места Гамбурга, ф. Мэле, быў тут і агледаў места.

НІЖНІЕ ШАНЦЫ, пад Коўнай. Трое маладых людзей ад 15 да 17 гадоў купаліся неўдалёчку ад тутэйшага тартаку. Няўмеўшый плавадь Юрэвіч папаў на глыбокае месца і ўтануў. Цела дагэтуль не знайшлі.

ДЗЬВІНСК. Вядомы прафэсар псыхалёгіі Дэсуар прачытаў тут лекцыю аб спірытызьме і містыцызьме. Гэтые модные кірункі сулядь катастрофу ня толькі паадзінкім асобам, але і цэлым народам. Доля забітага цара і Расеі—найлепшы доказ гэтага. Прадвесьніцай страшэннай катастрофы на ўсходзе была работа такіх людзей, як Іліодор, Філіппі і Распутін.

ЛІБАВА. На Прыморскай вул. № 7 зладзеі ўламаліся ў кватэру п. В. і ўкралі тканіну цаной на 7.000 м. Паліцыі ўдалося выкрыць зладзеяў і адабраць у іх большую часьць украдзенага.

МІТАВА. Чысло жыхараў за апошніе два месяцы ўзрасло с 17 да 20 тысяч.

# Украіна.

БЭРЛІН (В.Т.В.). 12.VIII. Карэспандэнты газэт наказываюць аб палажэньні на Украіне ніжэйпісанае:

Пакушэньне проці фэльдмаршалка ф. Эйхгорна зусім не зьмяніло палітыкі нямецкіх ваенных уласьцей. Надзеі саюзьнікаў на магчымасьць утварэньня новага ўсходняга фронту ні на чым не асованы. Ваенные апэрацыі немцаў абмежываюцца стычкамі з неспакойнымі элемэнтамі, у болей або меней чысьленых бандах пужаючымі ўвесь край. Бандамі кіруюць перэважна быўшые афіцэры, якіе маюць вялікіе грошы і добра аб усім асьвядомлены. Добра знаючы край і маючы добрые зьвязі, гэтые банды, меўшые сілу ў чэрвені, разгромлены. Аднак, зусім зьнішчыць іх не ўдалося. Паводлуг кіеўскіх газэт, нямецкіе войскі разагналі банды паўстаўшых селян на паўдня ад Кіева.

БЭРЛІН. Украінскае міністэрства еміных спраў апавешчае, што за тыдзень ад 3 да 10 жніўня цэнтральнымі дзержавамі вывезено 85 вагонаў украінскага збожжа. Жніво на Украіне рахуюць на 940 мільёнаў пудоў,—значыць, яно больш сярэдняга. Украіна сама спажывае 840 мільёнаў, а 100 мільёнаў могуць быць вывезены.

# Крым.

БЭРЛІН. Урад Крыму, галава каторага — ген. Татішчэв, прыехаўшый цяпер у Бэрлін дзеля перэгавораў, мае выпусьціць адозву, у каторай за ўрадовы язык рэспублікі будзе апавешчэн расейскі язык. Разам с тым будзе апавешчэно аб паварсці прыватнае ўласнасьці.

# З Фінляндыі.

МАСКВА (П.Т.А.). На першым заседаньні расейска-фінляндзкай камісіі ў Бэрліне галава фінляндзкай дэлегацыі Энкэль заявіў, што фінляндзкая дэлегацыя дабіваецца прыродных дзержаўных граніц на поўначы і ўсходзе і стараецца злучыць жывучые не ў Фінляндыі, але фінскага племя народы.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Апошняе заседаньне фінляндзкага сэйму адбылося вельмі ўрачыста. Надзвычайная сэсія дзеля выбара караля адбудзецца, бадай, 27 жніўня. Аб гэтым ждуць дэкрэту рэгента.

Дзьве дэпутацыі с паўночнай часьці Олонецкай губэрні заявілі аб аднадушным жаданьні насяленьня губэрні прылучыцца да Фінляндыі.

Прафэсар Штальбэрг, выдатны кіраўнік младафінаў і рэспубліканскай опозыцыі, адмовіўся ад свайго становішча ў партыі, каторая гэтак асталася без свайго ядынага галавы.

# Вестқі з Расеі.

БЭРЛІН. Расейскі пасол у Штокгольме, Воровскій, заявіў карэспандэнтам газэт, што глаўная работа савецкага ўраду мае на мэце карысьць народных мас. Кожная вёска мае цяпер сваю палітычную арганізацыю. Абасабленьне левых соцыал-рэвалюцыанераў ад селянства пасол тлумачыць тым, што селяне ў Расеі настроены проці ўселякіх войн. Цяпер партыя соц.-рэв.—гэта безрадная і бязсільная група інтэлігэнтаў. Савецкі ўрад вызваліў масы ад старой эканамічнай і палітычнай няволі.

Воровскій спадзяецца, што перэгаворы с Фінляндыей будуць закончэны ў 3 тыдні. Нельга сумлевацца, што ўгода будзе падпісана с прычыны вагі для Фінляндыі прыязных зносін з Расеей.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 12.VIII. Перэгаворы, ішоўшые тут у апошніе тыдні з расейскімі дэлегатамі аб пытаньнях палітычнага, эканамічнага, фінансавага і юрыдычнага характэру, вынікаючых з берасьцейскае ўмовы, гэтулькі пасунуліся ўпярод, што тутэйшы прэдстаўнік Расеі, Іоффэ, выехаў у Маскву, каб атрымаць згоду свайго ўраду на зробленые ўмовы.

БЭРЛІН. Перэгаворы з Іоффэ пайшлі гэтулькі ўпярод, што можна было прыступіць да разгляду ўмовы паводлуг параграфаў.

БЭРЛІН. Расейскі пасол Іоффэ, езьдзіўшый у Маскву дзеля справаздачы аб нямецка-расейскіх пе-

рэгаворах, варочаецца ў Бэрлін. Рэзультаты яго падарожы —памысные і сьведчаць аб ахвоце савецкага ўраду паддзержываць нормальные зносіны з Нямеччынай.

БЭРЛІН. Палажэньне савецкага ўраду за апошні час палепшало. Чуткі, быццам Ленін і Троцкій уцяклі ў Кроншгад, як відаць, не маюць ніякага грунту. Чысло дабравольцаў узрастае. У той тыдзень у Маскве адбыўся парад 30.000 аружных работнікаў.

Лондонская прэса прыгатаўляе грамадзянства да катастрофы. Яна пішэ, што саюзьнікі ня будуць вінаваты, калі опэрацыі чэхаславакаў ня дойдуць жаданае ўдачы.

ПЕЦЯРБУРГ. На заседаньні пецярбурскага камітэту кадэцкай партыі былі прачытаны пісьмы Мілюкова, дамагаючагася саюза з Нямеччынай. Вінавэр выступіў проці гэтага, бо нема ніякае прычыны зьмяніць прыхільную да Англіі палітыку кадэцкай партыі. Пасьля гэтага кадэцкая партыя ўсемі галасамі пастанавіла далей дзержацца палітыкі англіцкай ор'ентацыі.

МАСКВА (П.Т.А.). 6.VIII. У ноце Чычэрына на імя амэрыканскага гензральнага консула Пруля, між іншым, гаворыцца:

«Ня гледзячы на стан міра, англіцка-францускіе войскі ўварваліся ў нашы межы, гвалтам пазанімалі нашы вёскі і месты, расстрэлялі верных членаў саветаў, паразганялі работніцкіе арганізацыі, а іх членаў кінулі ў вастрогі. Усіх гэтых разбойніцкіх учынкаў нельга нічым апраўдаць. Людзі, каторые зусім не аб'яўлялі нам вайны, паступаюць у адносінах да нас, як дзікуны. Работніцкі клас усяго сьвету—нашы прыяцелі. Ці-ж англіцкі народ не бачыць ясна праўдзівых мэт Англіі? Мы прымушэны верыць, што ёсьць праект вярнуць найстрашнейшае тыранства сьвету».

ЦЮРЫХ. Асьвядомленые кругі ў саюзьніцкіх краёх заяўляюць, што аб'яўленьне Расеі вайны яе саюзьнікамі—немагчымо, бо у вачах саюзьнікаў большэвікі—толькі адна партыя, а не прэдстаўнікі ўсяго народу.

ПАРЫЖ. Б. расейскі міністэр Тімірязев друкуе ў парыжскай газэце «Intransigeant» стацьцю, даводзячы, што думка аб новай вайне Расеі—шалёная.

МАСКВА. На аснове прынятых другім конгрэсам саветаў пастаноў спаўніцельная уласьць аддадзена ў рукі трох асоб: Леніна, Троцкага і Зінов'ева, каторые атрымалі неаграничэные паўнамоччы дзеля барацьбы з ворагамі савецкага ўраду.

МАСКВА. Газэты наказываюць, што б. англіцкі пасол у Расеі Буканэн прыбудзе ў Владывасток, каб загадываць дыплёматычнай акцыей саюзьнікаў проці рэспублікі саветаў.

МАСКВА (В.Т.Б.). Як наказываюць з Ростова на Доне, безработцьце на паўднёвым усходзе ўсё павялічываецца. Налічаюць да 400 тысяч безработных.

У Кроншгад прыбыло 200 матросаў з Мурмана, каторые адмовіліся ваеваць проці ўраду саветаў. Мурманская дарога парухана ў многіх мясцох, і саюзьнікі ўсім распараджаюцца без усякае цэрамоніі.

ХРЫСТЫАНІЯ. У аўторак каля 6.000 саюзьніцкіх войск і каля 3.000 расейскіх выступілі на палудзень ад Архангельска. У Соламболі, як кажуць чуткі, высадзіліся амэрыканскіе войскі. Саюзьніцкі главнакамандуючый адмірал Кэмп выдаў адозву ў расейскай мове, вінавацючы маскоўскі ўрад у прадажы Расеі нямецкаму імператару. Ен кажэ, што чацьвёра паплечнікаў Леніна расстрэляны ў Архангельску.

Адмірал Кэмп утварыў у Архангельску новую раду, галава каторай —вядомы канцавы правы генэрал Зьвегінцэв.

МАСКВА (П.Т.А.). 19.VIII. Астрахань, Царыцын, Саратов усё яшчэ ў руках савецкага ўраду. На сярэдняй Волзе сілы чэха-славакоў, казакоў і белагвардзейцаў даходзяць 80.000 душ.

Концэнтрацыя савецкай арміі закончэна; яна даходзіць 150.000 душ. Наступленьне йдзе далей удачна. Савецкіе войскі ў бітвах даходзяць ужо пад прадмесьце Сімбірска.

Прыехаўшые ў Маскву прэдстаўнікі саветаў з Усходняга Сібіру кажуць, што чэха славакі дайшлі толькі да Байкалу. Увесь Усходні Сібір — у руках савецкае ўласьці.

На Мурманскім фронце саюзьніцкіе войскі пасьля шасьцідзённых бітв спынілі наступленьне і адыходзяць назад.

МАСКВА. Паводлуг справаздачы прыехаўшага камісара сібірскай арміі працэнт чэхаў у такзванай чэха-славацкай арміі даходзіць толькі цыфры 30 проці ранейшых 80. Рэшта—гэта афіцэры і белагвардзейцы.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Англіцкі ўрад прызнае чэха-славацкіе войскі ў Расеі, Францыі і Італіі за ваюючую сілу, саюзную з Англіей, каторая вядзе вайну с цэнтральнымі дзержавамі. Англія прызнае чэха-славацкую нацыанальную раду за найвышэйшую ўстанову чэха-славакоў і заступніцу будучага чэха-славацкага ўраду.

МАСКВА. На чэха-славацкі фронт выехало 50 агітатараў ад прафэсыанальных саюзаў. Пры разьвітаньні Ленін ім, між іншым, сказаў: «Вы павінны падняць настраеньне войск на магчымую вышыню і вытлумачыць нашай чырвонай арміі павагу небаспекі, прымушаючай кожнага сумленнага грамадзяніна напружыць усе свае сілы дзеля ратунку савецкага ўраду.»

БЭРЛІН. «Ізвестія» пачалі друкаваць дняўнік забітага цара, ведзены ім 36 гадоў блізка без ніякіх перарываў. 15 марца 1917 году цар, між іншым, запісаў: «Раніцай прыехаў Рузскій і расказаў аб доўгіх перэгаворах з Родзянкай. На яго пагляд, я павінен адрачыся ад кароны. Начальнікі арміі праз тэлефон заявілі, што гэта патрэбна дзеля карысьці Расеі і дзеля супакоеньня арміі. Я згаджаюся. З главнай кватэры прыслалі тэкст маніфэсту. У вечары я меў гутарку з Гучковым і Шульгіным, прыехаўшым с Пецярбургу. Ім я аддаў зьменены і падпісаны мной маніфэст аб адрачэньні. У 1 гадз. я выехаў у Пскоў с цяжкой сьвядомасьцю здарыўшагася. Навакол здрада, трусьлівасьць, ашуканства“

БЭРЛІН «Nordd. Allg. Ztg.» пішэ: Гішпанскі кароль прасіў нямецкага імператара памагчы дабіцца ад расейскага ўраду пазваленьня на выезд жонкі і дачок забітага цара.

# З усяго сьвету.

БЭРЛІН. 13.VIII. Аўстрыяцкага імператара Кароля разам з гр. Бур'янам і прынцам Гогэнлоэ ждуць назаўтра ў главнай кватэры. Адбудзецца нарада аб бягучых справах, асабліва-ж аб польскім пытаньні.

БЭРЛІН. С прычыны прыезду аўстрыяцкага імператара Кароля ў нямецкую главную кватэру «Nordd. Allg. Ztg.» пішэ, што гэты прыезд яшчэ раз адзначывае саюзьніцкую вернасьць, абапёртую на супольнасьці інтарэсаў Нямецкай і Дунайскай монархіі.

БЭРЛІН. Нямецкі пасол у Маскве, Гэльфэрых, разам с статс-сэкрэтаром загранічных спраў, Гінцэ, выехалі ў главную кватэру.

ЖЭНЕВА. «Daily News» рэзка нападае на Бальфура, каторы с пагардай гаварыў аб міжнароднай конфэрэнцыі. Прамова Бальфура—гэта пробка старой дыплёматыі з усемі яе грэхамі. Яна нічога не навучылася і ня верыць нікому, апрача сябе самай.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 14 VIII. Рэзалюцыя прускай палаты паноў, каторая выключыла б. нямецкага пасла у Лёндоне, кн. Ліхноўскага, с чысла членаў палаты за вядомы апубліканы мэмор'ял яго, апраўдываючый Англію і лічучый за прычыну сусьветнай вайны няздольнасьць нямецкай дыплёматыі,—зацьверджэна прускім каралём.

# Тэлеграмы.

## Нямецкіе апавешчэньні.

### 13.VIII. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На палудзенным заходзі ад Іпра на раніцы ішла вострая артылерыйская бітва. На паўдня ад Мэріс адбіты наступаўшые англічане. На каналі Лябассэ, між Скапр і Анкр —стычкі.

На фронце баталіі на паўдня ад Соммы ворагі атакавалі пасьля абеду наабапал дарогі Фодокур—Віле Брэтоннэ. Яны адбіты. На поўначы ад дарогі Ам'ен-Руа мы адбілі сільные варожые штурмы. Між Авр і Уаз вострые бітвы с сьвежымі францускімі дывізіямі. Між Тілёлюа і на поўначы ад Элегкур штурмы зламаліся перад нашымі лініямі, ў паадзінокіх пунктах адбіты контратакамі. Між Тілёлюа і Кані, а такжэ пры Ля Сіньі ворагі далей штурмавалі да познага,—на паўдня ад Тілёлюа да пяцёх разоў.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На поўначы і на ўсходзі ад Фім у мясцовых бітвах мы ўзялі палонных.

Учора зьбіты 29 варожых самалётаў. Лейтэнант Удэ дайшоў свае 53 е пабеды, капітан Бэртольд—43 і 44-е, пар. б. ф. Ріхтгофэн — 39 і 40-е.

### 14.VIII. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Удачные стычкі варт між Іпр і Скарп. На паўдня ад Меріс і Ліс адбіты варожые наступленьні.

*Фронт генэрал ан-шэфа ф. Бэн'а:* Наабапал Сомм і на паўначы ад Авр—мясцовые бітвы. На заходзі і на палудзенным заходзі ад Ля Сіньі ворагі ізноў атакавалі. Наабапал Кані атакі зламаліся пад нашым агнём. На поўдня мы адкінулі ворагаў контратакай.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Дробные пяхотные бітвы пры Вэль і на ўсходзе ад Рэймса.

### 15.VIII. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Ажыўленые разьведкі між Ізэр і Скарп. На палудзенным усходзе ад Айет адбіто англіцкае наступленьне на нашы лініі. На поўначы ад Анкр мы за апошніе дні пакінулі высунены ўпярод кут пры Пюісье і Бомон-Амэль. Яго ўчора паабедзі занялі ворагі.

*Фронт генэрал-ан-шэфа ф. Бэна:* У вечары між Анкр і Уаз—агонь.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Перайшоўшы на палудзенны бераг Вэль, мы ўзялі ў палон гарнізон на станцыі Прэль.

Нашы лятучые сілы загарадзілі дарогу ляцеўшай на нашу бацькаўшчыну англіцкай лятучай эскадры, зьбілі 5 самалётаў і прымусілі рэшту вярнуцца назад.

Учора мы зьбілі 24 варожые самалёты і 1 прывязны лятучы шар.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

РОТТЭРДАМ. З апошніх ваяўнічых прамоў Льлёйда Джорджа відаць, якіе ахвяры зложыла Англія, каб даць магчымасьць амэрыканскаму войску прыехаць у Францыю. С-паміж і так вельмі аслабленых параходных ліній у калоніі Англія ўзяла 200.000 тонн параходаў дзеля перавозкі амэрыканскіх войск у Эўропу. Пакінутые англічанамі параходные лініі ўразжэ былі заняты амэрыканскімі суднамі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 12.VIII. 11-га жніўня перад абедам перад Фрыжскімі астравамі зьявіліся сільные англіцкіе сілы числом ня менш 25 броненосцаў, 5 панцырных крэйсэраў і масы мінаносцаў і контрмінаносцаў, ды 6 маторных лодак. Нашы лятучые сілы атакавалі ворагаў, кідаючы бомбы і страляючы с кулямётаў. 3 маторные лодкі былі зьнішчэны, а рэшта іх пазбаўлена магчымасьці руху. Апрыч таго бомбы папалі на адзін панцырны крэйсэр і адзін мінаносец. Нашы марскіе сілы, выйшаўшые на сустрэчу ворагаў, не знайшлі ўжо іх на месцы. Мы утрацілі лятучае судно і адзін самалёт.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 12.VIII. Адміралцейства наказывае:

Англіцкіе марскіе і лятучые сілы зрабілі разьведку. На іх востра напалі нямецкіе лятучые сілы. 6 нашых маторных лодак не вярнуліся. Мы зьнішчылі адно лятучае судно, каторае палючыся звалілося ў ваду.

БРЭСЛАУ. Найбольш шчасьлівы ў цяперашнім часе нямецкі лятун, Левэнгарт, пагіб у бітве на паветры, пражыўшы 21 год. За свае чысьленые пабеды на паветры ён быў атрымаў ордэр «жалезнага крыжа» абедзьвых клясаў і ордэр «Pour le merite». Чысло яго пабед даходзіць 52—проці 41 пабеды ў Бэлькэ і 80 ў ротмістра Ріхтгофэна.

БЭРЛІН. Аб меры сучаснай вайны на паветры можна судзіць паводлуг гэткіх данных:

За месяц ліпень нямецкіе лятучые эскадры скінулі 45.000 пудоў бомб на ваенные будоўлі за варожым фронтам, главным чынам у Шалён, Крэпі-ан-Валюа і Эпэрнэ, а такжэ на станцыю Ст.-Поль.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 13 жніўня нашы марскіе лятучые сілы зьбілі 9 варожых лятуноў.

ПАРЫЖ (Гавас). Пачтовы параход «Djena» затоплен падводнай лодкай. Утанулі 443 асобы.

19 ліпня затоплен пачтовы параход «Aüstralien». Выратавано 948 асоб. Апрыч таго торпэдай цяжка папсован другі параход, каторы, аднак, яшчэ ўдалося выратаваць.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак: 4 аружные параходы ёмкасьцю разам 18.000 т.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У заходнім усьці каналу затоплены 16.000 т. Апрыч таго былі атакованы два малые крэйсэры і нішчыцель падводных лодак. Рэзультаты невядомы.

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.